Навіны

## Знешняя крэдыторская запазычанасць перавысіла трыльён рублёў

**Знешняя крэдыторская запазычанасць беларускіх прадпрыемстваў за тавары, работы і паслугі перавысіла 1 трыльён рублёў.**

Як паведамляе Міністэрства статыстыкі і аналізу, калі на 1 студзеня 2001 года запазычанасць складала 959 мільярдаў 989 мільёнаў рублёў, то на 1 лютага — 1 трыльён 23 мільярды 175 мільёнаў рублёў (846 мільёнаў долараў ЗША ў пераліку па афіцыйным курсе на той дзень), што на 6,6 працэнта больш у бягучых цэнах і на 1,7 працэнта — у супастаўных.

Больш за ўсё беларускія прадпрыемствы вінаваты краінам СНД — 580 мільярдаў 332 мільёны рублёў (56,7 працэнта ўсёй запазычанасці), у тым ліку Расіі — 561 мільярд 200 мільёнаў (54,8 працэнта), Украіне — 14 мільярдаў 672 мільёны, Малдове — 1 мільярд 696,6 мільёна, Казахстану — 825 мільёнаў. У агульным аб'ёме запазычанасці беларускіх прадпрыемстваў расійскім на долю запазычанасці за газ прыпадала 24,9 працэнта, за электраэнергію — 5,2 працэнта.

У запазычанасці прадпрыемствам краін па-за СНД (442 мільярды 843 мільёны рублёў) 21,3 працэнта прыпадала на запазычанасць Літве (94 мільярды 227 мільёнаў рублёў), у асноўным за электраэнергію.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## “Скажам "Не!" гвалту”

**У прыгарадзе Варшавы — Мядзешыне — у Цэнтры абучэння і канферэнцый завяршыў працу другі, пяцідзённы семінар з цыкла “Стратэгія планавання і тактыка дзеянняў у абарону правоў чалавека”. Яго правёў Польскі Хельсінкскі фонд па правах чалавека пры падтрымцы парыжскага аддзялення Інстытута адкрытага грамадства для лідэраў беларускіх няўрадавых арганізацый.**

Заключныя два дні семінара былі прысвечаны ўсебаковаму абмеркаванню праектаў, прапанаваных беларускімі ўдзельнікамі. З адным з іх — “Скажам "Не!" гвалту” выступіла кіраўнік салігорскай рэгіянальнай арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Ларыса Насановіч. У праекце была абгрунтавана неабходнасць стварэння ў Салігорскім раёне крызіснага цэнтра для жанчын.

Паводле звестак аўтара праекта, летась у раённыя органы міліцыі звярнулася каля паўтары тысячы жанчын, збітых мужамі або сужыцелямі. Пры гэтым лічыцца, што рэальная колькасць пацярпелых значна большая, паколькі большасць жанчын церпяць збіванні, не жадаючы “выносіць смецце з хаты”. Карціна “сямейнага” жыцця горада Салігорска была дададзена і такімі лічбамі: 120 дзяцей збеглі з дому, 1519 жанчын выхоўваюць дзяцей без мужоў і з'яўляюцца ў большасці аб'ектамі сексуальных дамаганняў, дзіцячы прытулак у горадзе перапоўнены, на 856 шлюбаў прыпадае 715 скасаванняў шлюбаў.

На думку Л.Насановіч, прычына няшчасцяў салігорскіх жанчын хаваецца ва ўзрастаючым мужчынскім алкагалізме, у стэрэатыпе насілля ў мужчын як праявы “мужнасці”, у комплексе ахвяры, які сфарміраваўся ў жанчын.

У салігорскім рэгіянальным крызісным цэнтры мяркуецца стварыць службы дапамогі жанчынам з прыцягненнем юрыстаў, псіхолагаў, устанавіць “тэлефон даверу”. Само яго існаванне, паводле задумы аўтара, дасць жанчынам упэўненасць у жыцці, магчымасць уратавання ў экстранных сітуацыях, павысіць грамадзянскую актыўнасць жанчын, будзе садзейнічаць разбурэнню гендэрных стэрэатыпаў “гвалтаўніка” і “ахвяры”.

**Мікалай ГРАЧУХА.**

## З'яўленне Дэкрэта №8 можа негатыўна адбіцца на прыцягненні ў Беларусь донарскіх сродкаў

**Дэкрэт Лукашэнкі ад 12 сакавіка №8 “Аб некаторых мерах па ўдасканальванні парадку атрымання і выкарыстання замежнай бязвыплатнай дапамогі” хаця і не тычыцца непасрэдна праекта Міжнароднай фінансавай карпарацыі (МФК) “Развіццё малога і сярэдняга бізнесу ў Беларусі”, аднак выклікае ў прадстаўніцтва МФК “пэўную заклапочанасць”. Пра гэта заявіў БелаПАН кіраўнік прадстаўніцтва МФК у Беларусі і кіраўнік праектаў тэхнічнай дапамогі Карл Дагенхарт.**

Паводле яго слоў, згодна з адной з фармулёвак дакумента, яго дзеянне “не распаўсюджваецца на тэхнічную дапамогу і іншыя віды замежнай бязвыплатнай дапамогі, прадастаўляемыя па праектах і праграмах, ухваленых прэзідэнтам або ўрадам Рэспублікі Беларусь”. МФК, будучы членам групы Сусветнага банка і спецыялізаванай установай ААН, дзейнічае ў краіне па ўзгадненні з урадам Беларусі, і яго праект, гэтаксама як праекты Сусветнага банка і праграмы ПРААН, не падпадае пад дзеянне гэтага Дэкрэта.

Разам з тым, сцвярджае спадар Дагенхарт, пасля выхаду Дэкрэта партнёры праекта — цэнтры падтрымкі прадпрымальніцтва, бізнес-асацыяцыі і саюзы прадпрымальнікаў, якім аказваецца тэхнічная дапамога, выказваюць сур'ёзную заклапочанасць у дачыненні да перспектыў сумеснай працы. Дэкрэт прадугледжвае вельмі жорсткія санкцыі за парушэнне яго нормаў: штрафы, ліквідацыю юрыдычных асоб, у тым ліку за аднаразовае парушэнне, дэпартацыю і іншае, многае будзе залежаць ад таго, як дзяржаўныя кантралюючыя органы будуць яго трактаваць і прымяняць.

На думку прадстаўніцтва МФК, асобныя прадугледжаныя Дэкрэтам захады з'яўляюцца неабгрунтаваным умяшальніцтвам у правы ўласнасці: напрыклад, вызначэнне накірункаў выкарыстання бязвыплатнай дапамогі; рэгістрацыя ў Дэпартаменце па гуманітарнай дзейнасці; узгадненне з дэпартаментам накірункаў выкарыстання ў тых выпадках, калі яны прама не прадугледжаны Дэкрэтам. Гэта можа адмоўна адбіцца на прыцягненні ў краіну донарскіх сродкаў, паколькі любыя абмежаванні права ўласнасці працуюць супраць іміджу краіны ў вачах патэнцыяльных інвестараў, мяркуе спадар Дагенхарт.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

Выбар-2001

# Шэраговы Іваноў

*Мабыць, усе ведаюць прымаўку пра шэрагоўца Іванова, які адзіны з усёй роты крочыць “у нагу”. Гэты вобраз стаў сімвалам індывідуалізму і лібералізму, эгаістычнага самавыхвалення і нават кідкага выкліку калектывізму.*

*Вобраз шэраговага Іванова міжволі прыходзіць у галаву, калі назіраеш за падрыхтоўкай да прэзідэнцкай кампаніі. І хаця яна яшчэ і не пачалася афіцыйна, але “Івановых” з'явілася так шмат, што за іх натоўпам можна і не пабачыць “роту”.*

*Што і натхніла мяне на напісанне гэтага артыкула.*

Сапраўды, С.Антончык вылучаецца кандыдатам у прэзідэнты ад “рабочай самапомачы”, З.Пазьняк — ад уласнага “вызвольнага руху”, генерал П.Казлоўскі — ад вайскоўцаў, нехта В.Леванеўскі — ад дробных прадпрымальнікаў, а нехта — Я.Крыжаноўскі — ад “інтэлігенцыі”. Я ўважліва прааналізаваў іх электаральную базу і характар магчымых праграм і прыйшоў да несуцяшальных вынікаў.

Насамрэч “рабочая самапомач” ахоплівае ў лепшым выпадку недзе дзве тысячы чалавек. Каб ахапіць дзесяць мільёнаў, гэта ж колькі спатрэбіцца грэчкі і алею? Ніякі спонсар не вытрымае. А з другога боку, што прапануе людзям С.Антончык сваімі раздачамі “халявы”? Ці не тое ж робіць так званы першы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, кідаючы настаўнікам, медыкам, навукоўцам па некалькі тысяч падачкі да вялікіх савецкіх святаў? Тут атрымліваецца, як з дакладамі пра карупцыю: у каго болей “чамаданаў”, той і перамагае.

У каланіяльным стане адчуваюць сябе ў Беларусі каля 15 тысяч “грамадзянаў БНР”. Астатні, “несвядомы” народ наўрад ці пойдзе за “афіцэрамі” З.Пазьняка. Як гэта ні крыўдна. Таму што “нацыянальна-вызвольны рух” — гэта з недалёкага камуністычнага мінулага. Гэтыя рухі былі паспяховымі пры дастаткова вялікай колькасці зброі і грошай, якія пастаўляў СССР. Зараз крыніцы тыя павысыхалі.

Крыху больш электаральная база ў трохзоркавага генерала П.Казлоўскага — 80 тыс. асабовага складу, ды 200—300 тыс. вайсковых пенсіянераў, а разам з сем'ямі — каля 1 млн. чалавек. Астатніх 9 млн. будзе цяжка зацікавіць праграмай сацыяльнай абароны вайскоўцаў. Праўда, усе ведаюць пра генерала А.Пінaчэта. Толькі ўладу ён браў не шляхам выбараў. Праз выбары ён уладу аддаў, таму зараз не вылазіць з судовых працэсаў.

Электаральная база В.Леванеўскага і Я.Крыжаноўскага яшчэ меней. Асабліва ў артыста Яўгена. Бо добра вядома, і з гэтым усе згодныя, што з інтэлігенцыяй у нас “напряженка”. Дэфіцыт, іншымі словамі. А дзе дэфіцыт, там карупцыя, падман, даносы. Уяўляеце прэзідэнцкую каманду з адных стукачоў? Не? Не ўяўляеце? Тады ўзгадайце каманду ПП РБ, з якой праз 7 год застаўся адзін генерал-зязюлька В.Шэйман. Во, сапраўдны інтэлігент! Але ўжо заняты. Гэта значыць, наняты.

Цікавей прыклад В.Леванеўскага. Як тут не згадаць камітэт “Выбар-2001"? Шаноўныя людзі з камітэта абурыліся самаўпэўненай заявай А.Лукашэнкі пра тое, што ў Беларусі ёсць толькі адзін палітык — А.Лукашэнка. Лукашэнку можна зразумець. Вось заходзіць ён у кабінет кіраўніка сваёй адміністрацыі, а за спінай шаноўнага Міхаіла Уладзіміравіча вялікі партрэт А.Лукашэнкі. Ён — да прэм'ер-міністра, а ў таго партрэт проста перад вачыма. І так паўсюдна: і ў кабінеце Генеральнага пракурора, і ў сакратара Савета бяспекі У.Латыпава, і ў кожнага міністра, і намміністра, і па ўсёй вертыкалі, у кожным сельсавеце, нават у апошняга начальніка РАУС у самым глухім вясковым раёне маленькі партрэцік А.Лукашэнкі! Як тут не пераканацца, што сапраўды ў Беларусі толькі адзін палітык.

А вось камітэт “Выбар-2001" не ўлічыў глыбінныя прычыны, памылкі ПП РБ і пачаў прэзентаваць нашаму народу невядомых яму, але вельмі перспектыўных лідэраў. Трапіў у гэтую мясарубку і сціплы важак прадпрымальнікаў-забастоўшчыкаў В.Леванеўскі. Камітэт не дааценіў велізарную выбуховую сілу гэтай асобы. Вы ж уявіце — з аднаго боку прадпрымальнік, з другога — забастоўшчык. Гэта тое ж самае, што сумесь кіслароду з вадародам, альбо вядомы ”цягні-талкай". Суцэльная дыялектыка, адным словам. З лёгкай рукі камітэта пайшлі гуляць па “незалежнай” прэсе шматлікія інтэрв'ю, партрэты і ацэнкі В.Леванеўскага. Чытаў я іх, чытаў, пакуль не адчуў нешта да болю знаёмае. Ба! Дык гэта ж — плагіят у А.Лукашэнкі. Той думае, што ён адзіны палітык, а Леванеўскі сцвярджае, што гэты адзіны палітык — ён. Таго і глядзі — паб'юцца. Яно б і не блага такія спрэчкі вырашаць кулаком. Абодва маладыя, здаровыя. Так што шанцы амаль роўныя. Уяўляеце? Становіцца АМАП і прэзідэнцкая ахова ў вялікае кола, грукаюць дубінкамі па шчытах, а ў цэнтры аголеныя па пояс па праваслаўна-славянскім звычаі два добрых малайца. А на трыбунах электарат — фанаты А.Лукашэнкі і В.Леванеўскага, адны — у чырвона-зялёных, другія — у зялёна-чырвоных шаліках. Свішчуць, скандзіруюць перадвыбарчыя лозунгі. Піва разносяць з пончыкамі. Музыка. Тлум. Бой да таго моманту, пакуль сапернік стаіць на нагах. Ляжачага — не біць! Але думаю, што пры самым незалежным назіранні пераможа А.Лукашэнка. Пры ўсёй маёй павазе да прадпрымальніка-забастоўшчыка, ПП РБ усё ж рэгулярна займаецца спортам, чаго не скажаш пра сп.Валерыя.

У чым жа прычына гэтага самападману? Адказ толькі адзін — у камітэце “Выбар-2001". Заходзіць апошнімі днямі ў сваю канторку на гарадзенскім рынку В.Леванеўскі, а на яго з кожнай сцяны глядзіць В.Леванеўскі і лагодна так пасміхаецца. Вось што робіць незалежная прэса з няўстойлівымі душамі, вось куды накіроўвае іх высакародныя парыванні, вось як ставіць на шлях непазбежнай паразы.

Прааналізаваўшы такім чынам усебакова і аб'ектыўна сітуацыю, што склалася ў Беларусі, я прыйшоў да высновы, што Бацькаўшчына ў небяспецы. Ёй патрэбны мае ўласныя намаганні. Усе пералічаныя кандыдаты і шмат яшчэ хто — нікуды не вартыя. Толькі я магу выратаваць Беларусь!

Я як раз ляжу ў шпіталі. Ужо трэці месяц. І пакуль лекі капаюць у маю вену, галава мая ясная і канструктыўная. Працуе на поўную катушку. Так у мяне склаўся адзіны магчымы пераможны план. І, заўважу, ва ўсіх падрабязнасцях.

Я вылучаюся кандыдатам у прэзідэнты ад усіх хворых Беларусі! Хто, як не я, разумее іх праблемы? Бо я — з іх асяроддзя! Таму падтрымка ўсіх, хто ляжыць у шпіталях, хто бадзяецца па паліклініках, а таксама іх родных і знаёмых мне гарантавана. Прыкладныя падлікі паказваюць, што гэта якраз 10 млн. (разам з дзецьмі). Скажыце, у каго больш магутная электаральная база? Пры гэтым А.Лукашэнка можа адпачываць. Ён жа не на бальнічным. Які хворы яго падтрымае? Не дарма ж гаворыцца: сыты галоднага не разумее.

Сам сабою склаўся і слоган маёй кампаніі. Ён лёгка запамінаецца і б'е ў самую кропку. Мяркуйце самі: “ХВОРАЙ КРАІНЕ — ХВОРЫ ПРЭЗІДЭНТ!”. Нічога нельга ні дадаць, ні адняць. Мая праграма, якая не можа не натхняць, таксама ясная і кароткая: “ГАЛАСУЙЦЕ ЗА МЯНЕ! Я ВЕДАЮ, ЯК ВЫЛЕЧЫЦЬ ВАС І БЕЛАРУСЬ!”. Якое ж сэрца трэба мець, каб не падтрымаць гэткую праграму? Апошні бомж, адкінуўшы пляшку чарнілаў, пойдзе, каб датэрмінова прагаласаваць за мяне. А калі і знойдзецца нейкі тупагаловы, які (як некалі Кебіч чапляўся да Лукашэнкі з пытаннем: “Як, як запусціць заводы?”) будзе чапляцца да мяне, то ў мяне падрыхтавана імправізацыя: “Кожны чалавек — непаўторны. Агульных рэцэптаў не існуе. Пасля майго абрання прыходзьце. Разгледзім Вашы праблемы”. Магчымы варыяцыі: “Ну, не магу ж я публічна абмяркоўваць Вашы хваробы”. І гэтак далей. Уяўляеце, колькі глядацкага часу я сэканомлю! Колькі сацыяльных груп паспею павіншаваць з надыходам восені (ці лета), з нябачным ураджаем і дасягненнем стодоларавай мяжы ў заробках. Са светлымі перспектывамі пасля майго абрання. І вяскоўцаў, і вайскоўцаў, і моладзь, і пенсіянераў, і “жэншчын”, і “чэсных”, і “нячэсных” журналістаў. Так што мая перамога — непазбежная.

Калі я Вас пераканаў, мой паважаны, горача любімы выбаршчык, то хачу запэўніць, што шэраговы Іваноў, які крочыць не ў нагу з ротаю, гэта не я. Я катэгарычна выступаю за адзінага, незалежнага, дэмакратычнага і аўтакратычнага кандыдата, якім я з'яўляюся. Таму звяртаюся да ўсіх няўдалых кандыдатаў, якія, як я паказаў, не маюць ніякіх шанцаў на поспех: “Далучайцеся да маёй каманды і крочце са мной у нагу!”. Кажуць, што рэзананс можа разбурыць самы трывалы мост. Але гэта кажуць розныя рацыяналісты-нацыяналісты. Сапраўдныя рамантыкі ў гэта не вераць. Таму і бягуць, штурхаючы адзін аднаго. Але — “КУДЫ БЯГУЦЬ?”. Гэтую фразу прашу залічыць у спіс афарызмаў кшталту “што рабіць?”, “хто вінаваты?”. І прашу лічыць сведчаннем маёй геніяльнасці (усё геніяльнае — проста).

Закончу ж я выкладанне свайго пераможнага плана заклікам да ўсіх няўдалых кандыдатаў: “Дарагія сябры! У дзяржаве ёсць шмат пачэсных і адказных пасад, якія патрабуюць талентаў, не меншых, чым пасада прэзідэнта. Суцішцеся! Станавіцеся пад мае пераможныя харугвы! Разам пераможам!”.

**Ад гэтага і надалей шэраговы Іван ІВАНОЎ,**
**а для сябраў БНФ — Юрась ХАДЫКА, прафесар.**



## Щедрая весна

Сплошным праздником души стала наступившая весна для девятиклассницы Татьяны СЕРГЕЙ (на снимке). Земляки принародно признали ее красавицей, присудив пальму первенства на конкурсе красоты, который проходил в Яковчицком Доме культуры Жабинковского района.

**Фото Романа КОБЯКА, БелТА.**

## Працуем на... склад

На 1 сакавіка запасы гатовай прадукцыі на складах беларускіх прамысловых прадпрыемстваў складалі 55,1 працэнта да сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці прадукцыі і ацэньваліся ў 546,3 мільярда рублёў. Для параўнання: на 1 сакавіка 2000 года запасы складалі 51,3 працэнта.

Больш за ўсё склады затаварaны крупамі (376,7 працэнта да сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці прадукцыі), шарсцянымі тканінамі (293,8), шынамі для сельскагаспадарчых машын (274,7), радыёпрыёмнымі прыладамі (271,5), трактарамі (249), металарэзнымі станкамі (240,4), ільнянымі тканінамі (202,7), панчошна-шкарпэтачнымі вырабамі (178,3), абуткам (168,1), прадукцыяй швейнай прамысловасці (166), матацыкламі (129), халадзільнікамі і маразільнікамі (117,7).

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Рэнтабельнасць вытворчасці працягвае падаць

Сёлета працягвалася падзенне рэнтабельнасці вытворчасці на прадпрыемствах Магілёўскай вобласці. Паводле звестак абласнога ўпраўлення статыстыкі, у лютым 2001 года 53 працэнты прадпрыемстваў народнай гаспадаркі рэгіёна былі стратнымі (у лютым 2000 — 50,7 працэнта). Рэнтабельнасць прадукцыі знізілася з 2,3 працэнта ў студзені 2000 года і да 0,7 працэнта ў студзені 2001.

Падзенне рэнтабельнасці суправаджаецца зніжэннем аб'ёмаў прамысловай вытворчасці. За першыя два месяцы бягучага года прамысловасцю вобласці выраблена прадукцыі на 6,1 працэнта менш у параўнанні з адпаведным леташнім перыядам. За гэты час рэнтабельнасць прамысловай прадукцыі скарацілася больш чым у два разы, а запасы гатовай прадукцыі на складах павялічыліся на 6,5 працэнта.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

Дажыліся...

## Больш горшыя, чым у Беларусі, справы толькі ў Грузіі

Беларусь па-ранейшаму мае адзін з горшых паказчыкаў сярод дзяржаў Садружнасці па росту прамысловай вытворчасці. Паводле звестак Міждзяржаўнага статыстычнага камітэта СНД, па выніках студзеня-лютага 2001 года гэты паказчык у параўнанні з аналагічным леташнім перыядам склаў у краіне ўсяго 1,8 працэнта. З улікам таго, што звестак па Узбекістане і Туркменіі няма, больш горшыя, чым у Беларусі, справы толькі ў Грузіі, дзе адзначана падзенне росту прамысловай вытворчасці на 13,5 працэнта.

Разам з тым найбольшы рост прамысловай вытворчасці сярод краін СНД у студзені-лютым 2001 года ў параўнанні з тым жа перыядам 2000 года зафіксаваны ва Украіне, дзе ён склаў 16,7 працэнта. Затым ідуць Кіргізія (15,4 працэнта), Таджыкістан (12,9 працэнта), Арменія (11,4 працэнта), Казахстан (9,8 працэнта), Азербайджан (6,6 працэнта), Малдова (4,5 працэнта) і Расія (3,1 працэнта).

Варта нагадаць, што па выніках студзеня 2001 года рост прамысловай вытворчасці ў Беларусі склаў 3,7 працэнта, што было таксама адным з горшых паказчыкаў у Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

Интер-беседа

*Пол КОНРАД:*

# “А все, что показывало БТ по поводу американских шпионов, это, по-моему, чьи-то сказки”



*Беларусь посетил один из самых популярных и рейтинговых американских тележурналистов — Пол КОНРАД. Пол — типичный американец с типичной американской улыбкой, пятикратный лауреат престижной премии Эмми, обладатель степени магистра искусств, работает в Чикаго в телекомпании “WGN”, программы которой транслируются в более чем 50 миллионов домов и квартир в Соединенных Штатах. То есть зрительская аудитория нашего героя, работающего на настоящую телеимперию, превышает 150 миллионов человек. Свой отпуск американец решил провести довольно оригинальным способом — со своей красавицей-женой Кирстен, по совместительству продюсером компании, он приехал на неделю в Минск. Встретился со своими друзьями, коллегами, студентами. Хотел встретиться с журналистами Белорусского телевидения. Но его не пустили на БТ...*

*Перед вылетом из Минска мы с Полом и его женой беседуем в кабинете главного редактора “Народной воли”.*

**— Пол, почему решили провести отпуск здесь, в Беларуси? Экзотики захотелось?**

— Да. В Америке, откровенно говоря, вряд ли кому-то придет в голову провести отпуск в такой стране, как Беларусь. Я не хочу никого обидеть, но реальность такова, что 95% американцев не знают о существовании вашей страны. И дело здесь не в вас, белорусах, а в нас — американцах. Если выразиться образно, мы немного привыкли вариться в собственном соку. Тем более интересной для меня становится моя нынешняя поездка.

Вообще-то я приехал в гости к моему другу, американцу, который в свое время захотел изучать русский и белорусский языки, белорусскую культуру, а сейчас живет здесь с женой и тремя детьми. Но вместе с тем, кроме встречи с другом, мне было интересно узнать о ситуации, которая сложилась у вас в политике, в журналистике.

**— С кем удалось встретиться в Минске?**

— У меня было очень много интересных встреч со студентами Европейского гуманитарного университета, студентами БГУ, а также с американцами, которые учатся в Минске. Особый интерес и, я бы даже сказал, восхищение у меня вызвала ваша молодежь.

**— Чем же они вас так очаровали?**

— Ваша молодежь очень образованна и активна. К учебе белорусские студенты относятся порой намного серьезнее, чем американские. Белорусы очень жизнерадостны и энергичны. Мне было интересно познакомиться с историей Беларуси, посетить Красный костел на площади Независимости. Вообще, разъезжая по свету, я прихожу к выводу, что люди везде одинаковы. Америка и Беларусь — не исключение. Даже метро в Минске очень сильно мне напомнило чикагское. Разве что...

**— Что, разве что?**

— У нас есть такое понятие, как “частное пространство”. То есть американец привык, чтобы как минимум на метр от него никого не находилось на улице или в общественном транспорте. В Минском метро, прямо скажем, немного тесновато — иногда даже трудно дышать, так много пассажиров. Тем не менее ваше метро очень эффективно...

**— Что Вы имеете в виду, говоря — эффективно?**

— Я хочу сказать, оно работает точно и своевременно. Работники Минского метро делают грандиозную работу — быстро перевозят с места на место такие большие массы людей. В Чикаго поезда метро ходят гораздо реже: один поезд за 10-15 минут.

**— Пытались ли встретиться со своими коллегами из Белорусского телевидения?**

— Да, пытались. Но нас не пустили на БТ. Хочу сказать, что меня не интересовали какие-то секреты. Мне было просто интересно узнать, какие технологии вы используете на телевидении, какие марки оборудования применяете. Мне очень хотелось сравнить, как обстоят дела здесь, в Беларуси, с тем, что происходит в Америке. У нас очень много телевизионных каналов, между каналами — очень мощная конкуренция: только в Чикаго — шесть независимых телеканалов. В Америке средства массовой информации — большая сила, это в полном смысле слова четвертая власть.

К сожалению, возможности сравнить, о которой я сказал, мне в Минске не предоставили.

**— Как Вы относитесь к той антиамериканской пропаганде, которая развернута сейчас на Белорусском телевидении?**

— Мягко говоря, я удивлен. Скажу вам честно, у нас своих проблем хватает. И Америку заботит сейчас, прежде всего, сама Америка. Особенно это стало заметно после ноябрьских президентских выборов в прошлом году, на которых победил, как известно, республиканец Джордж Буш. А все, как мне рассказывали друзья, что показывало БТ по поводу американских шпионов, это, по-моему, чьи-то сказки.

**— Чувствуете ли Вы, работая в Чикаго, какое-то давление со стороны босса? Я имею в виду, может ли вам начальство запретить говорить о чем-то или о ком-то?**

— Нет, такое невозможно. У нас свобода творчества. Есть, конечно, рамки, за которые не следует выходить. Но это скорее, рамки морали, рамки здравого смысла. Мне могут порекомендовать только что-то немного изменить. А уж менять или не менять — это мое дело. Основными критериями, по которым оценивается моя работа, — это профессионализм и объективность. Это главное в работе журналиста.

**— Журналистика — большой бизнес в США. Лично для Вас работа — это просто бизнес или любимое занятие?**

— К счастью, и то и другое. Мне нравится моя работа, и к тому же она неплохо оплачивается.

**— Сколько зарабатывает в месяц американский журналист?**

— На моей телестанции месячная зарплата журналиста колеблется от 7 до 10 тысяч долларов. Самый высокооплачиваемый журналист в нашей компании работает в отделе прогнозов погоды, его месячный доход — более 100 тысяч долларов.

*Когда наше интервью подошло к концу, в кабинет вошел главный редактор Иосиф Середич, который тут же предложил Полу Конраду остаться работать в “Народной воле”. Пол вежливо отказался...*

**Беседовал Александр СИЛИЧ.**

## Студентов заставили проголосовать досрочно

Я — студент одного из брестских вузов. Хочу рассказать историю, как меня заставили голосовать. Так как явка студентов в нашем избирательном округе на участки для голосования очень низкая, а это видно из итогов предыдущих избирательных кампаний, то руководство университета решило пробудить в нас чувство государственного долга.

Начиналось все так. На занятия приходил человек, ответственный за явку студентов на выборы, а точнее, довыборы, и недвусмысленно намекал, что если кто-то из проживающих в общежитии не проголосует, то ему придется плохо. Могут появиться проблемы со сдачей сессии и т.д. Причем голосовать нужно было досрочно. На вопрос, почему именно досрочно, следовал ответ: “Так легче вас проконтролировать и принять меры”.

В общежитии воспитатель со списком непроголосовавших ходил по комнатам и также заставлял всех идти на выборы. Чуть ли не каждый день меня спрашивали, почему я не явился на избирательный участок, пугали последствиями. Когда я в последний день досрочного голосования сказал, что не пойду на выборы, начали спрашивать причину. Они эту причину должны были записать напротив моей фамилии и весь список непроголосовавших передать руководству университета.

А с некоторыми студентами, которые все-таки пошли на выборы, ситуация еще интереснее. Кое-кто не был внесен в списки, а за кого-то уже проголосовали, то есть напротив фамилии стояли дата и подпись. По рассказам моих знакомых, в других вузах творилось то же самое.

**Р.В.**

*При публикации письма прошу не указывать мою фамилию.*

## Гаишник превратился в угонщика

Вероятно, многим из нас доводилось наблюдать такую картину: трактор “Беларусь”, за рулем которого восседает милиционер в форме гаишника, тащит на платформе легковой автомобиль.

Свидетелем принудительной эвакуации, о которой пойдет речь, однажды оказалась и я. В районе Торгового дома “На Немиге” эвакуировали новенькую, шикарную иномарку черного цвета. Передние колеса на платформе, включенная сигнализация...

Первую реакцию хозяина эвакуированной машины представить трудно, но догадаться можно: “Угнали!” Как утверждает один мой знакомый, уже дважды пострадавший от этой операции не только материально, но и морально, дважды не находивший свою машину на месте стоянки, ничего другого, кроме как “Угнали”, ему в голову не приходило.

Заметим сразу: мой знакомый — пенсионер МВД с 25-летним стажем. Отлично знает, что с милицией лучше не связываться. Парковал и паркует свою машину только в местах, где нет запрещающего знака. Тем не менее все меры предосторожности в обоих случаях оказались тщетными.

В первый раз он попался примерно год назад. Припарковался возле Червенского рынка. Закупив все необходимое для ремонта квартиры, потащил к машине. Уверенный, что метров сто он с этим грузом как-нибудь преодолеет. Не больше. У него потемнело в глазах, когда обнаружил, что его машины на месте не оказалось. Там уже стояла другая. Опрос случайных прохожих результатов не дал. Потащился к замаячившей вдали фигуре постового. Температура под минус 15, а перчатки остались в машине. Постовой вроде что-то такое наблюдал. Был эвакуатор недавно, потащил какую-то машину на штрафстоянку. Ни на марку, ни на цвет не обратил внимания. Да и темно уже было.

Бедолаге ничего другого не оставалось, как ловить такси и отправляться на розыски чертовой стоянки. Сколько ни мотался таксист, но так и не сумел найти к ней подъездной дороги. Пришлось брать свой груз, как говорится, в зубы и тащиться по целине, утопая в снегу.

Убедившись, что его любимица в целости и сохранности, вздохнул с облегчением, наивно полагая, что на этом его несчастья закончились. Вытерев пот со лба, достал бумажник: “Сколько с меня?”

Рано перевел дух. Впереди его ожидали испытания и потрясения не менее серьезные. Машину ему никто возвращать не собирался. Охранника интересовали не деньги, а квитанция об уплате штрафных санкций: за хранение, за транспортировку, за парковку в неустановленном месте. Нужно было вначале съездить в райотдел милиции, где определят размер штрафа и выпишут квитанцию, потом — в сберкассу, оплатить выставленный счет, а уж только после этого, с квитком — к охраннику штрафстоянки.

У полковника вновь потемнело в глазах. Был конец рабочего дня, конец недели, впереди два выходных. Бросив покупки в багажник машины, помчался, насколько позволял возраст и здоровье, вновь ловить такси. Лихорадочно прикидывая, во сколько ему эти неприятности обойдутся. Сутки на охраняемой стоянке, уже знал, стоят одну минимальную зарплату. Но когда увидел общую сумму штрафа, которую ему выписали в райотделе, его чуть не хватил удар: “Вы что, с ума сошли?! Я — пенсионер. Пенсионер МВД! Машина была припаркована в разрешенном месте. И стояла даже не с краю, а посредине. Ее элементарно ”выдернули". Мою подцепили, а крайние остались!"

Жалкий, никому неинтересный лепет. Он потом очень переживал, что так унижался. Но столько потрясений за короткое время могут вывести из душевного равновесия, согнуть кого угодно. Невезучий полковник — не исключение. “Крайним”, как выяснилось позже, он стал по неопытности. Нужно, советуют знатоки, поставить машину на ручной тормоз или вывернуть колеса до упора. С такими машинами гаишники стараются не связываться: можно порвать подвеску. Но это совет для владельцев иномарок. “Отечественным” он не поможет.

Что касается штрафных санкций, то они несоизмеримы не только с пенсиями наших среднестатистических сограждан (у милиционеров, например, она несколько больше, чем у рабочих или инженеров), но и с зарплатами. Судите сами. Штраф за парковку в неустановленном месте — 1—3 м/з. Сутки на охраняемой стоянке обойдутся от 500 рублей (находятся за городом, возле постов ГАИ) и в одну минималку — в городе. Принудительная эвакуация — 4—6 м/з. В общем, тысяч 50 набежит. Не потемнело в глазах, уважаемые автолюбители? При этом речь не идет о злостных нарушителях дорожного движения. Проблема в том, что в городе элементарно негде припарковать машину. Мест для парковки крайне мало.

Мои собеседники из ГАИ, посетовав на тяжести службы, соглашались, что штрафы у нас действительно драконовские. Но особой вины за собой не чувствуют: не они их придумали, не им поступают денежки на счет. В ГАИ он попросту отсутствует. Деньги поступают на расчетные счета исполкомов. Так что все претензии по этому поводу можно адресовать городским властям.

И задать вопросы. Почему обязательно нужно эвакуировать машину, если в этом нет острой необходимости? Почему не штрафовать на месте?

Впрочем, и так ясно: это выгодная статья дохода для государства, которое не проявляет заботу о своих гражданах даже в таком “пустяке”, как обустройство стоянок.

**Вера МАТУСЕВИЧ.**

